© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 12 (995) ГОД XX 23 САКАВІКА 1975 г. ЦАНА 60 гр.


**Пуцяводныя думкі**

Кожны чалавек мае права быць дурнем, супраць гэтага нічога сказаць нельга, але і правам трэба карыстацца з некаторай памяркоўнасцю.

Л. Берне

Злосць скарачае жыццё.

Нізамі

## І НА ЧАТЫРОХ ГЕКТАРАХ МОЖНА...

— Э-э! Калі гаспадарка мае ўсяго чатыры гектары, у тым тры гектары ворыўнай зямлі ды адзін — лугі і пашы, тады на такім „маёнтку“ мажлівасці невялікія, не разгонішся! — заўважыць нехта з недаверам. А **Юлія і Уладзімір Паўлючукі** з вёскі Цялушкі, што ў Беластоцкім павеце, даказалі, як можна дабіцца высокіх вынікаў нават на такой маленькай гаспадарцы.

— Не скажу, каб зямля ў нас была надзвычайная, — заўважае У. Паўлючук. — От, такі сабе пясочак пятага класа ды крыху лепшыя кавалачкі над ракою Нарвай і па далінках. Але я дбаю пра яе, як мае быць: і гною не шкадую і мінеральных угнаенняў сыплю, колькі трэба. Стараюся ўсё ў час, у пару зрабіць. І паверце, жыта сею якіх семдзесят пяць сотых, а намалочваю каля 25 цэнтнераў, столькі ж сею і аўса, а ён мне сыпле больш, чым жыта, бульбы з такой жа плошчы збіраю цэнтнераў якіх дзвесце, калі не болей. Не кажу ўжо пра луг, бо хаджу каля яго асабліва дбайна. Ну, і маю якіх семдзесят сотых агароду...

І на гэтай лапінцы Паўлючукі гадуюць тры дойныя каровы, каня, трымаюць дзве мацёры. У год прадаюць па пятнаццаць штук кармнікаў, 35-40 штук парасят, адстаўляюць не мала малака.

— Падстава нашай гаспадаркі — гэта агарод, — кажа Ю. Паўлючук. — Трускалкі, агуркі, памідоры, салат, гародніна, даюць найбольшы даход. Працы каля гэтага, што і выпрастаць плечы. няма калі, бо і расаду выгадаваць трэба, пасля палоць і збіраць. Але, праўду сказаўшы, ад вясны і да восені ўвесь час свежы грош плыве і то не абы-які. Колькі тонаў усяго гэтага: гуркоў, памідораў, трускалак ды іншага за год перавалім — не злічыць. Вось хоць бы ў мінулым годзе. Хто пасеяў гуркі на адкрытым грунце, дык нічога не сабраў. А ў нас яны былі пад плёнкай з фоліі, сыпаліся, што кожны дзень выбіраць трэба было. Сеем пераважна „Полян-1“. Надта ж ураджайны сорт. Маем мы і тутэйшы, цялушкаўскі, можна сказаць, сорт. Таксама добры. Вы маеце ў Беластоку агародчык? О, дык я вам зараз дам нашага насен-

(Працяг на стар. 4)



"БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-75"

*Другое месца ў сёлетнім цэнтральным аглядзе ў катэгорыі сучаснай песні ў групе калектываў заняў сектэт з Бельска ў складзе: В. Лукашук, Е. і Н. Навакоўскія, Н. Нікіцюк, В.Раеўская і М. Цар.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*



*— Гаспадарка — клапатарка, але калі каля яе пахадзіць, жыць можна, як належыцца, — сцвярджаюць Юлія і Уладзімір Паўлючукі.*

## НАВОДЗІМ ПАРАДАК

Беспарадак — найгоршы вораг дбайнага, сучаснага гаспадарання. А ў нашых вёсках яшчэ рознае прыходзілася бачыць. Ідзем, бывала, вясковай вуліцай і раптам перад вачыма ўзнікае такі ландшафцік, быццам гісторыя адкрунулася на адно стагоддзе назад: маленькая хатка пад дзіравым саламяным дахам, напалавіну разваленая, зарылася ў зямлю і сумна глядзіць на свет выбітымі акенцамі. Пакінулі яе гаспадары, цайшлі кудысьці ў горад шукаць лепшай долі і забыліся пра родны парог. Парахнеюць сцены, цярушыцца салома і... хопіць адной іскрынкі, каб усё гэта за адну хвіліну пераўтварылася ў вогненны факел.

Пажары кожны год паглынаюць нам вялікую маёмасць. Вось у мінулым годзе з дымам, як кажуць, пайшло 75 мільёнаў злотых. На тысячу трактараў хапіла б гэтага капіталу. І так паўтараецца кожны год.

А зойдзеш, бывала, на панадворак да нейкага нядбайнага гаспадара, ды там — божа мой! — саломы па калені, горбы сухога галля, раскіданы дровы, кругом поўна трэсак. Здаралася, на жаль, не адзін раз убачыць такое. А ўжо калі на паддашша залезеш, дык там такая ўсячына, што аж у галаве кружыцца. Усё непатрэбнае з лёгкай рукі ляціць менавіта туды. Шкада нішчыць, мяркуе гаспадыня або гаспадар, можа яшчэ калі на што прыдасца. І так з гадамі паддашша дома пераўтвараецца ў склад вогнепальнай старыны. Да таго ж бывае і так, што гаспадар не заўважыць, што цэгла з коміна выкрушылася, а дым іскры раздувае. Няшчасце гатовае. Астаецца толькі слёзы абціраць і дабівацца дзяржаўнай дапамогі ды пляваць сабе ў бараду: каб я ведаў, што яно так будзе... Трэба ведаць загадзя, трэба прадбачваць.

(Працяг на стар. 4)

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"**

**На рабочым і сялянскім франтах ● Малы юбілей, а што далей? ● У свеце беластоцкіх назваў і гаворак ● Крах „д'ябальскага саюза“ ● Гігант на Беразіне ● Профіль, прынцыпы... ● Антон Луцкевіч ● Алесь Гарун ● Чыжы ● Калі сніцца нябожчык ● Весткі з Белавежы, Вярхлесся, Гайнаўкі, Чэхаў Арлянскіх, Семяноўкі, Руткі, Тапалян, Сукавіч і і інш. ● Песня „Witaj dniu”.**




ОРМО — Добраахвотны рэзерв грамадзянскай міліцыі. Папулярная і вядомая грамадская арганізацыя, створаная ў лютым 1946 года. У сапраўднасці ОРМО ўзнікла зараз пасля вайны. На Гайнаўшчыне, на Бельшчыне, у Сямяціцкім павеце, стыхійна распачыналі дзейнасць узброеныя групы сялян і рабочых для самааховы перад бандамі. Іх ядром з'яўляліся ячэйкі Польскай рабочай партыі.

Старыя, пажоўклыя фотаздымкі. Першамай 1945-46 гадоў. Вуліцамі чырвонай Гайнаўкі ідуць дэманстранты. Наперадзе — армоўцы. „Бандытам рашучы даем адпор!“

— Гайнаўшчына, — сцвярджае I сакратар павятовага камітэта партыі ў Гайнаўцы тав. Людвіг Бартосяк, — багата дрымучымі лясамі, аднак рэакцыйныя банды на Гайнаўшчыне не маглі заснаваць сваіх баз.

У другіх раёнах Беласточчыны, асабліва там, дзе да вайны слабыя ўплывы мелі камуністы, аж кішэла ад тых, што са зброяй у руках рашылі замацоўваць капіталістычны лад у Польшчы. У 1945 годзе бандыцкая групіроўка Млота-Фіялкоўскага налічвала, для прыкладу, 1000 чалавек. З рук гэтых бандытаў загінуў сакратар гміннага камітэта ППР у Клюковічах — Бурыч, спакойны селянін з вёскі Тымянка, у Сямяціцкім павеце. Гэтая ж банда, памятаю, неаднойчы наблiжалася да Вулькі Нурэцкай, аднак там яе сустракалі ўзброеныя армоўцы.

Перад судом у мястэчку Лапы стаў Казімір Камінскі — „Гузар“ і яго лясныя сябры, падначаленыя. Банда Гузара аставіла асабліва крывавае жніво. На месцы для сведкаў паяўляецца маці 17-гадовага Францішка Тымасяка, плача і расказвае:

— Прыйшлі зараз пасля поўначы. Да смерці не забуду гэтай страшнай ночы. Знуткаваліся над ім на маіх вачах. Толькі за тое, што стаў трактарыстам, што дбайна выконваў свае абавязкі. Вось гэты, — выціраючы слёзы, паказвае маці на бандыта Гродскага, — выбіў нашаму Франку зубы, а гэты, — яе палец спыняецца на твары „Гузара“, які цяпер не мае смеласці, каб глянуць на яе, — гэты стаяў побач і толькі смяяўся, калі мой сын пляваў крывёю. Пасля завялі яго ў лес, босага, у адной кашулі... Не ведаю, якія мукі ён там перацярпеў. Раніцай знайшлі мы яго ў лесе, голы вісеў на дрэве... Страшэнна пакалечаны.

Жанчына моўкне, плач давіць горла.

На выстаўцы ў Гайнаўскім доме настаўніка пад шклом пажоўклыя запіскі, якія цяпер сталі ўжо дакументамі тых часоў. Чытаю:

*„Пан солтыс вёскі Слоя!*

*Загадваю, каб далі вы нам налог ад цэлай вёскі: 15 тысяч грашыма, 15 кг сала, 10 літраў гарэлкі, 2 капы яек, каўбасы і хлеба. І каб усё гэта было*

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




## ГРАМАДА І АВЕЧКІ

Кожная кніжка мае свайго адрасата, кожная павінна адпавядаць акрэсленаму грамадскаму запатрабаванню. Ад гэтага запатрабавання хочацца пачаць разважанні аб тэматычнай накіраванасці „Беларускага календара“ — пастаяннага штогадовага выдання БГКТ.

Каляндар разлічаны на шырокі круг чытачоў, з чаго вынікае, што яго змест павінен быць карысным, цікавым і даступным некалькім тысячам людзей шматлікіх прафесій і з разнастайным узроўнем адукацыі. Гэтага ўжо дастаткова для ўсведамлення факту, што рэдактары календара лёгкага жыцця не мелі і мець не будуць.

Складанасць справы прапарцыянальная да цяжкасці акрэслення зместу гэтай патрэбнай кніжкі. Якім ён павінен быць, улічваючы і патрэбы чытача, і зацікаўленні выдавецтва?

Не будзе, бадай, памылковым сцвярджэнне, што сучасны чытач патрабуе многа як у колькасным, так і ў якасным сэнсе. Пераважная частка яго. патрэб паспяхова задавальняецца прадукцыяй шматлікіх дзяржаўных выдавецтваў. Даступныя кніжкі, часопісы і газеты даюць яму самую шырокую інфармацыю — ад міжнароднай палітыкі да пытанняў агратэхнікі.

У такіх умовах наўрад ці правільнай з'яўляецца рэдакцыйная палітыка, згодна з якой календары запаўняюцца інфармацыямі, якія чытач атрымоўвае з іншых крыніц, да таго часцей, хутчэй і ў лепш дастасаваным выглядзе. Датычыцца гэта перш за ўсё такіх „парад“, як авечкі маюць пладзіцца, а курыцы — несці яйкі. Гэтыя добрыя парады, традыцыя якіх выводзіцца яшчэ з заходнебеларускіх календароў, магчыма, былі апраўданымі ў тыя часы, калі сельскагаспадарчая літаратура была сялянству амаль недаступнай. Сёння, аднак, выклікаюць яны на вёсцы толькі іранічную ўсмешку.

Замест гэтых, на мой погляд, лішніх звестак павінен быць значна пашыраны круг пытанняў, якія даволі правільна распланаваны, напрыклад, у сёлетнім выпуску календара. Пры гэтым хочацца заўважыць, што вялікую карысць і чытачам і самой рэдакцыі дало б устанаўленне ў календары пастаянных тэматычных раздзелаў, праект якіх падаецца ніжэй:

- Свет — калейдаскоп падзей;
- ПНР — сёння і заўтра;
- Наш родны кут (эканамічны і культурны прагрэс усходняй Беласточчыны);
- З жыцця БГКТ (публіцыстычны агляд дзейнасці, сілуэты перадавых актывістаў. Цэлы матэрыял — з захаваннем дакументальнага характару);
- З нашай мінуўшчыны (папулярна-навуковыя нарысы з гісторыі Беласточчыны і беларуска-польскага супрацоўніцтва);
- Народная культура (этнаграфія, архітэктурныя помнікі старыны, фальклор — апісанне абрадаў і цікавейшыя тэксты);
- На ніве асветы (мінулае і сучаснае нашага школьніцтва, сілуэты выдатных педагогаў);
- Наш Парнас (лепшыя ўзоры прозы і паэзіі нашых літаратараў);
- Іншыя аб нас (адгалоскі ў друку аб дзейнасці БГКТ і аб беларусах на Беласточчыне).

Нядаўна давялося мне размаўляць аб календары з сялянамі адной вёскі на Бельшчыне. Не без гонару пачуў я ад іх, што найбольш цікавым артыкулам, апублікаваным у сёлетнім календары, быў нарыс пра Грамаду. Аб авечках не ўспомніў ніхто. Хочацца, каб гэтая ілюстрацыя спрыяла ўсведамленню абсалютнай неабходнасці павышэння тэматычнага ўзроўню календара.

Адным са сродкаў, які хацелася б прапанаваць у гэтай справе, магло б быць пэўнае абмежаванне значнай колькасці дробных інфармацый, змяшчаемых у календары, і пашырэнне аб'ёму папулярна-навуковых артыкулаў. Артыкулаў займальных, не нудных. Здаецца, што магчымасці нашых аўтараў і рэдактараў дастатковыя для таго, каб справіцца з гэтым заданнем.

І яшчэ некалькі дробных заўваг:

- Аб'ём календара павялічыць прынамсі да 300 старонак;
- Каляндар павінен быць у продажы ў пачатку снежня (безумоўна);
- Вызначыць рэдактара не на кожны год, а прынамсі раз на пяць гадоў. Не вяртацца да неэфектыўнай практыкі рэдкалегій;
- Пазбягаць аматаршчыны ў мастацкім афармленні, — вокладка календара не павінна адпіхаць чытача.

**Юры Туронак**

## *Наш каляндар*

21 сакавіка г.г. адзначаем 135-годдзе з дня нараджэння Францішка Багушэвіча (1840-1900), вядомага беларускага паэта-дэмакрата, заснавальніка крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры, удзельніка паўстання 1863 г.



### МАЯ ХАТА

*Бедна ж мая хатка расселася з краю,*
*Між пяскоў, каменняў, ля самага гаю,*
*Ля самага бору, на беражку лесу,*
*Ніхто тут не трафе, хоць бы з інтарэсу.*
*Як няма гарэлкі, няма куска хлеба,*
*Ды які ж інтэрас, каму сюды трэба?!*
*Да хоць няма хлеба, жабраваць не буду,*
*Пражыву як-кольвек ад працы, ад труду!*

*Кепска ж мая хатка, падваліна згніла,*
*І дымна, і зімна, а мне яна міла;*
*Не буду мяняцца хоць бы і на замкі, —*
*Калок свой мілейшы, як чужыя клямкі.*
*На страсе мох вырас, на маху бярозка, —*
*Мільшая мне хатка, як чужая вёска.*

*Сваталі ж мне ў прымы у новую хату,*
*На зямлю ражайну і дзеўку багату;*
*Буду жыць, казалі, як які пасэсар,*
*Ездзіць парай коні, як сам пан асэсар;*
*Да мне даражэйшы вугал гэты гнілы,*
*Камень пры дарозе, пясок ля магілы,*
*Як чужое поле, як дом мураваны! —*
*Не аддам за сурдут каптан свой падраны.*

*Клікалі ж у госці і клічуць суседзі.*
*Не пайду, не трэба, бо, кажуць, заедзі*
*Ад чужога хлеба губы абсядаюць,*
*Што чужога прагнуць, то сваё кідаюць.*
*Я не кіну хаты, хоць вы мяне рэжце,*
*Не пайду да вас я, хіба у арэшце.*

*А хоць сілай навет адарвалі б з дому,*
*Калісьці вярнуўся б, як мядзведзь да лому.*
*Заваліцца й хата, зарастуць пакосы,*
*Усё б я вярнуўся, хоць голы, да босы!*

*Насек бы бярвенняў, нацягаў бы моху,*
*Зноў бы склеціў хату як-кольвек патроху,*
*Зрабіў бы камору, выкаваў бы жорны, —*
*Усё ж свой хлеб еў бы, хоць бы сабе чорны!*
*Ну дык жа адстаньце, нашто я вам трэба:*
*Ці каб ваш хлеб есці, ці рабіць вам хлеба?*

**Францішак Багушэвіч**




## Анталогія — не анталогія?

У Лодзінскім выдавецтве выйшла кніжка **„Былі ў мяне мядзведзі і іншыя беларускія апавяданні“**. Складальнікам кніжкі і перакладчыкам з'яўляецца Ян Гушча. Яе тыраж — чатыры тысячы экземпляраў.

Змешчаны ў ёй творы наступных аўтараў: Якуба Коласа, Міхася Лынькова, Кузьмы Чорнага, Піліпа Пестрака, Янкі Скрыгана, Аркадзя Чарнышэвіча, Аляксея Кулакоўскага, Янкі Брыля, Івана Шамякіна, Івана Мележа, Васіля Быкава, Івана Навуменкі, Лідзіі Арабей, Уладзіміра Караткевіча, Івана Пташнікава, Вячэслава Адамчыка, Івана Чыгрынава, Анатоля Кудраўца, Барыса Сачанкі і Алеся Жука. Разам — трыццаць пяць загалоўкаў на звыш чатырохстах старонках.

Гушча выразна абмежаваўся да прозвішчаў значных у беларускай літаратуры, абыходзячы бокам аўтараў сярэдняга лёту. Такім чынам ужо наперад пазбыўся ён магчымых параўнанняў з анталогіяй беларускага апавядання. Выдаў звычайны зборнік ды ўсё (аб чым піша ва ўступным слове).

Відаць, памятае ён, што ягоныя **„Беларускія вершы“** спрабоўвалі называць анталогіяй беларускай паэзіі і, натуральна, мелі крытыкі шмат заўваг, пераважна абгрунтаваных.

Якасць перакладаў у кніжцы **„Былі ў мяне мядзведзі...“** выразна лепшая ды, зрэшты, параўноўваць іх з якасцю перакладаў у **„Беларускіх вершах“** можна перш за ўсё на той падставе, што Ян Гушча, як вядома, з'яўляецца перш за ўсё паэтам. Аднак жа не кожны тэкст прыйшоўся Гушчу пад сілу. Напрыклад, апавяданне **„Былі ў мяне мядзведзі“**, адзін з цудоўнейшых твораў у беларускай літаратуры, моцна адстае ў сваёй перакладной версіі ад гучання арыгіналу. Дзесьці падзеліся ў ім архаізаваныя формы, якімі па-майстэрску валодае Уладзімір Караткевіч, аўтар гэтага твора. Ці не лепей было ўключыць у гэту кніжку пераклад апавядання, зроблены Флар'янам Няўважным? Па-мойму, той пераклад значна лепшы... Незаслужана застаўся па-за ўвагай Яна Гушчы Аляксей Карпюк са сваімі мініяцюрамі і кароткімі апавяданнямі. Некалі варшаўскае **„Зьверцядло“** апублікавала вельмі добры пераклад цікавага апавядання А. Карпюка **„Знаёмы незнаёмец“**. Перакладаў яго Віктар Варашыльскі. Не бачу таксама празаічных твораў Еўдакіі Лось, кароценькіх, хвалюючых, несумненна вартых увагі замежнага чытача, польскага.

Прагледзеўшы гэту кніжку, усё-такі цяжка пазбыцца ўражання пэўнай хаатычнасці або, мо дакладней кажучы, адвольнасці ў складанні яе Янам Гушчам. Можна здагадвацца, што ён не атрымаў камплекту прапаноў, якія дазволілі б падрыхтаваць максімальна рэпрэзентабельную панараму выдатных з'яў у сучаснай беларускай навеле і апавяданні. Хаця б за кошт некаторых аўтараў, ужо вядомых польскаму чытачу па папярэдніх перакладах, кніжках.

Урэшце, даведкі аб аўтарах занадта ж грашаць няпоўнай інфармацыяй. Напрыклад, у біяграфічнай даведцы пра Івана Пташнікава не знаходзім ягонай выдатнай кніжкі **„Тартак“**. Быкава ж збеднілі проста непрабачальна! Дзе **„Сотнікаў“**, дзе **„Дажыць да світання“**, дзе **„Мёртвым не баліць“**!? Трэба меркаваць, што ў складанні кароткіх даведак

(Працяг на стар. 5)

## Літаратурны вечар

26 лютага ў клубе Ваяводскай і гарадской бібліятэкі ў Беластоку адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны беларускай літаратуры. Спачатку выступіў з дакладам навуковы работнік беларускай кафедры Варшаўскага універсітэта др Аляксандр Баршчэўскі. Ён шырока знаёміў удзельнікаў з выдатнымі беларускімі паэтамі і празаікамі, прыгадаў шмат цікавых аўтабіяграфічных даведак паасобных літаратараў, якіх не знайсці ў школьных падручніках беларускай літаратуры. Вершы выдатных беларускіх паэтаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Максіма Танка ў перакладзе на польскую мову чытаў акцёр Беластоцкага тэатра імя А. Вянгеркі Анджэй Кароляк. Вечар быў цікавы, змястоўны і таму ўсе цёпла яго ўспрынялі, усе былі пад уражаннем выступлення др А. Баршчэўскага, яго прафесіянальнай эрудыцыі і асабістых літаратурных схільнасцей.

Тэкст і фота
**Я. Цялушэцкага**


*Вершы беларускіх паэтаў чытае Анджэй Кароляк.*


*Выступае др Аляксандр Баршчэўскі*


*Удзельнікі літаратурнага вечара.*

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

